№ 149 (271)

Чацвер, 28 жніўня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 5.59 | 20.02 |
| Магілёў | 6.01 | 19.58 |
| Гомель | 6.01 | 19.53 |
| Мінск | 6.11 | 20.09 |
| Гродна | 6.23 | 20.24 |
| Брэст | 6.31 | 20.21 |



# І паслаў нам Бог гарачы жнівень. Значыць, будзем з хлебам!

## Хутка – фініш

У многіх гаспадарках жніво набліжаецца да фінішу. Па стану на мінулы аўторак на Брэстчыне было ўбрана 77,4% палеткаў, на Гродзеншчыне і Гомельшчыне — адпаведна 83,8% і 81%. Нават на Віцебшчыне ўжо абмалочана 67% пасеяных плошчаў.

Сярэдняя ўраджайнасць складае 27,5 цэнтнера з гектара. Найбольш важкія намалоты на Гродзеншчыне. Тут з кожнага гектара атрымана ў сярэднім па 33 цэнтнеры, на Брэстчыне — 30,2 цэнтнера. А вось на Віцебшчыне ўраджайнасць складае 22,4 цэнтнера з гектара, на Гомельшчыне — 25,1 цэнтнера.

**Васіль ДРАБКОЎ.**

## 62 цэнтнеры з гектара. Вось гэта ўраджай!

Лепшых намалотаў па стану на мінулы аўторак дабіліся хлебаробы гаспадаркі "Кастрычнік" Гродзенскага раёна. Тут атрымана па 62 цэнтнеры з гектара. Па 57 цэнтнераў намалацілі ў калгасе "Свіслач" гэтага ж раёна, па 55,6 — у калгасе "Ленінскі шлях" Слуцкага раёна, па 54,3 цэнтнера — у гаспадарцы "Прагрэс" Гродзенскага раёна.

Больш за пяцьдзесят цэнтнераў з гектара маюць у калгасах "Камінтэрн" і "Зара" Магілёўскага раёна, гаспадарцы "Сноў" Нясвіжскага і калгасе "Чырвоная зорка" Клецкага раёна, калгасах імя Дзеншчыкова Гродзенскага, імя Свярдлова Жлобінскага раёна. Па сорак цэнтнераў "з хвосцікам" намалацілі ў калгасах імя Калініна Столінскага, "Зара камунізму" Докшыцкага, "Дружба" Смалявіцкага, "Гігант" Бабруйскага раёна.

**Андрэй КАВАЛЬЧУК.**

**Ма-ла-й-цы!**

## Хто намалаціў 1000 тон збожжа — таму ордэн можна ўручаць!

Мінулы тыдзень унёс істотныя карэктывы ў спаборніцтва камбайнераў, якія змагаюцца за тысячныя намалоты. Тон тут, несумненна, задалі гродзенцы. Лепшых паказчыкаў па стану на аўторак дабіўся Уладзімір Пячэнка з калгаса "Мірскі" Карэліцкага раёна. Ён намалаціў 1323 тоны збожжа. Трохі адсталі ад яго землякі Уладзімір Валюк з калгаса "Прагрэс" Зэльвенскага і Віктар Цюцікаў з гаспадаркі "Кастрычнік" Гродзенскага раёна, які лідзіраваў на пачатку мінулага тыдня. На іх рахунках адпаведна 1233 і 1217 тон намалочанага збожжа.

Услед за імі ідуць Вячаслаў Шарох з саўгаса "Порплішча" Докшыцкага раёна (намалаціў 1200 тон) і Рычард Аўдзей з калгаса "Дружба" Берастаўіцкага раёна (1196 тон), якія ў лідэрах амаль з самага пачатку жніва. Больш за тысячу тон намалочанага збожжа маюць камбайнеры калгаса "Маладая гвардыя" Драгічынскага раёна Васіль Праневіч (1181 тона), калгаса-камбіната імя Урыцкага Гомельскага Мікалай Краўчэня (1181 тона). Імёны гэтыя вядомыя па нашых ранейшых публікацыях.

З'явіліся і новыя імёны сярод тысячнікаў. Гэта Аляксандр Ясінскі з саўгаса "Беразнянскі" Калінкавіцкага раёна (1078 тон), Іван Лазовік з калгаса "Беларусь" Дзятлаўскага раёна (1062 тоны), Іван Філатаў з калгаса "Рачковічы" Слуцкага раёна (1117 тон), Генадзь Бараноўскі з калгаса імя Калініна Круглянскага раёна (1099 тон).

Растуць шэрагі "тысячнікаў" і сярод вадзіцеляў. Больш за ўсіх (1689 тон) перавёз вадзіцель Мікалай Ільеня з калгаса-камбіната імя Урыцкага Гомельскага раёна. Больш як тысяча тон збожжа перавезена вадзіцелямі з Гродзеншчыны — Генадзем Занеўскім, Рыгорам Палюком і Станіславам Шарупам; з Гомельшчыны — Рыгорам Волкавым і Мікалаем Філіпчанкам; з Брэстчыны — Іосіфам Саковічам і Мікалаем Кіндруком; з Міншчыны — Мікалаем Адамовічам, Уладзімірам Сямашкам і Іванам Насевічам.

На дапрацоўцы збожжа вызначыўся машыніст калгаса "Прагрэс" Зэльвенскага раёна ІосіфВаладзько. На яго рахунку 5700 тон. Міхаіл Ненадовец з калгаса "Камунар" Пінскага раёна, які выйшаў на другое месца, перапрацаваў 3950 тон. Звыш трох тысяч тон перапрацавалі машыністы Іван Белы з калгаса імя Міцкевіча Мастоўскага раёна, Пётр Кавалёў з калгаса-камбіната імя Урыцкага Гомельскага, Рыгор Мартыненка з калгаса "Галоўчыцы" Нараўлянскага і Уладзімір Кручок з калгаса "Слава" Нясвіжскага раёна.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Ляхавіцкія лідэры

Ляхавіцкія земляробы славяцца высокімі ўраджаямі льну-даўгунцу. Але ў раёне, як і ўвогуле на ўсёй Брэстчыне, сапраўднымі лідэрамі ў гэтай справе з'яўляюцца паляводы калгаса імя Ламаносава, які ўзначальвае Герой Сацыялістычнай Працы, кандыдат сельскагаспадарчых навук Генрых ТРАЦЦЯК.

**На здымках:** *час збору ўраджаю — самы, бадай, напружаны для старшыні Г.Трацяка, які з ранку да позняга вечара знаходзіцца на палетках; ёсць што здаваць Радзіме — вось-вось КамАЗ накіруецца на льнозавод; пасля працы добра і пагаварыць па душах.*

**Фота Яўгена КОКТЫША.**

**Стоп-кадр**







**Откровенно**

## Своим ответом Владимир Коноплев косвенно подтвердил то, что в Беларуси произошел переворот

Владимир Коноплев пришел в большую политику из Шклова. Откуда и Александр Лукашенко. Не победи последний на президентских выборах, о первом, может быть, никто в столице и не знал бы. Но А.Г. не забыл тех, кто ему помогал обрабатывать электорат, и после победы пригласил В.Коноплева в Минск, усадив в кресло рядом с собой. А затем Владимир Николаевич выиграл депутатский мандат и, понятно, не без помощи патрона стал вице-спикером так называемой Палаты представителей.

Не отказывается выходец из Шклова дать интервью журналистам. В том числе независимых изданий. Недавно, например, он мило беседовал с Ольгой Тарасевич из "Свободных новостей". И не заметил, как выдал то, что обычно сам президент и его окружение всячески скрывают или отрицают.

У Владимира Коноплева журналистка спросила:

— Да, но Совет Европы считает нелегитимными все созданные после референдума структуры, в том числе и палату.

Ответ:

— ...Я думаю, что со временем нас признает и Совет Европы. После революции 1917 года Россию ведь тоже не хотели признавать, но в конечном итоге все страны были вынуждены это сделать...

Интересное сравнение, не правда ли? Большевистская Россия 1917 года и Беларусь лукашенковского режима. Надеюсь, Владимир Николаевич не станет отрицать тот факт, что большевики в семнадцатом совершили самый настоящий переворот, о чем знает весь мир. Значит, его параллель между большевистской Россией той далекой поры и нынешней Беларусью наводит на мысль, что и у нас был совершен переворот.

Что ж, Владимир Николаевич, спасибо за откровение. Остается только констатировать, что после переворотов все новые властные структуры нелегитимны. В том числе и палата, в которой Вы занимаете кресло вице-спикера. И хотя, по-вашему, нет объективных причин, по которым палату представителей якобы собираются распустить, случиться это все же может. Лучше всего — чтобы это произошло без переворота.

**Сергей БУРСКИЙ.**

**Внимание!**

## Не останьтесь без "Народной воли" в четвертом квартале

Хотя подписку можно было оформить на все второе полугодие, часть читателей смогла выкроить из своего скромного бюджета деньги лишь для подписки на третий квартал. Чтобы не остаться без "Народной воли" в октябре — декабре, не забудьте до 10 сентября заглянуть в ближайшее почтовое отделение или пункт "Белсоюзпечати" и продлить подписку. Что такое 29.000 рублей? Стоимость одного скромного обеда. А отдав эту сумму на подписку, Вы будете целый месяц с любимой "Народной волей". Наш индекс: 63222.

**Вы — с "Народной волей"!**
**"Народная воля" — с Вами!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

**на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Афіцыйна**

## 1 верасня кожны беларускі школьнік будзе мець усе падручнікі

Хутка 1 верасня. У беларускія школы пойдуць прыкладна 120 тысяч юнакоў і дзяўчат. Такія лічбы назваў міністр адукацыі В.І.Стражаў напярэдадні новага навучальнага года на сустрэчы з журналістамі. У бліжэйшыя гады гэтая лічба ў сувязі з дэмаграфічнай сітуацыяй скароціцца прыблізна на 30%.

У 1996 годзе 60% дзяцей ішлі ў школу з сямі і болей гадоў, астатнія — з шасці. У гэтым навучальным годзе гэтая лічба не змянілася, як не змяніліся праблемы з сумесным навучаннем шасці- і сямігодак. Таму ў наступным годзе плануецца ўвесці пры дзіцячых садках падрыхтоўчыя класы, дзе дзеці з шасці год будуць вучыцца па новых палегчаных праграмах. Потым яны пойдуць у першы, другі і гэтак далей да адзінаццатага класа. Такім чынам, мы атрымаем 12-гадовую школу. І яе выпускнікам, як і сённяшнім адзінаццацікласнікам, пры заканчэнні школы таксама будзе васемнаццаць гадоў.

З 1 верасня павялічыцца дзяржаўная датацыя на харчаванне школьнікаў — 2% ад мінімальнага заробку ў дзень.

Гаворачы пра набалелае пытанне платных падручнікаў, міністр адукацыі адзначыў, што 1 верасня ў кожнага беларускага школьніка будуць усе падручнікі. А аплаціць іх кошт бацькам трэба будзе да 1 кастрычніка. У пачатковай школе гэта прыблізна 100 тысяч рублёў, з сёмых класаў — каля 200 тысяч, і ў апошніх — 300 тысяч рублёў.

**Ганна ЗАЙЦАВА.**

**Провинциалка**

## Им бы еще толстых артисток...

Восемь кабинетов в центре Бреста выделено в облисполкомовском здании обкому БПСМ. Поговаривают, что "молодые патриоты" такому выделению приобиделись — это всего пол-этажа, а хотелось весь, как у комсомола. Эх, им бы для начала площади и штаты — вот тогда бы работа пошла... А пока нет поля для серьезного дела, все мелкота какая-то: последствия урагана, полегшие колосья, преступность подростковая... До того ли при нынешних организационных заморочках-заботах? А еще — при такой "крыше".

## Комбайны, в колонну по одному стр-ройся!

Почти сотня комбайнов отправилась из брестских колхозов в восточном направлении. Президент дал команду поделиться техникой для проведения уборочной на его исторической родине, а заодно уж и с Витебщиной — приказы и указы в нынешних колхозах не обсуждаются. С тяжелым сердцем расставались колхозные председатели со своими латаными-перелатаными комбайнами, понимая, что технику в чужих краях окончательно "добьют". Комбайнеры — те ничего, не унывают: лишняя копейка не помешает, а тут еще надежда добрать зерна до заветной цифры "1000 тонн", за достижение которой сулят ценные призы. А обманут — ну так не привыкать: плюнут и обиду скоро забудут, белорусский крестьянин — он отходчивый. Памяркоўны.

## На военных складах и без того не густо

Крупную недостачу выявила проверка областной прокуратурой военных связистов, располагающихся в центре Бреста. Недостача военного имущества тянет почти на 40 миллионов рублей, которые товарищ прапорщик пропил или проворонил. Начальник вещевого склада артиллерийской части, дислоцирующейся в Брестской крепости, набедокурил еще больше. У него пропало находящегося на хранении "материально ответственного" добра на 120 миллионов рублей, что также пахнет уголовной ответственностью. Благо хоть, растащены не боеприпасы, а обувь, обмундирование и зимний камуфляж.

## Свободный профсоюз ищет солидарности

Вновь напомнил о себе свободный профсоюз работников брестского завода "Цветотрон". Его активисты, занятые борьбой за немедленную выдачу работникам задолженности по зарплате, хотели пикетировать здание местного горисполкома, но не получили соответствующего разрешения и провели эту акцию у заводской проходной. Выставленные пикетчиками плакаты требовали для работающих "нормальной зарплаты, а не тюремной пайки". Продолжался и сбор подписей за снятие с должности директора завода. А некоторое время спустя с десяток представителей неугомонного профсоюза встретились и обсудили вопросы своей борьбы с директором Варшавского бюро американских профсоюзов АФТ-КПП и представителем польской "Солидарности".

**Подборку подготовила Анна ШАХОВА.**

**Навінка**

## Гэты тэлевізар спадабаецца бацькам

У вытворчым аб'яднанні "Віцязь" пачата асваенне серыйнай вытворчасці новай мадэлі тэлевізара "Віцязь-6411"."Навічок" можа ажыццяўляць усе функцыі настройкі, у тым ліку і аўтапошук з запамінаннем праграм, а пры дапамозе так званага электроннага замка засцерагчы дзяцей ад прагляду непажаданых праграм. Гэта значыць, у патрэбны час пэўны канал можа быць надзейна заблакіраваны.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**
Віцебск.

**Футбол**

## Бобруйская "Белшина" катит мяч в могилевские ворота... Чтобы стать чемпионом

Главным футбольным событием ближайших дней станут для белорусских болельщиков матчи наших лучших команд в европейских футбольных турнирах. И если для нашего прошлогоднего чемпиона мозырского МПКЦ, две недели назад разгромленного в Афинах "Олимпиаком" со счетом 0:5, и минского "Динамо", уступившего в первом матче норвежскому "Лиллестрему" дома (0:2), ответные матчи станут лишь печальной формальностью, то у бобруйской "Белшины" есть все шансы пройти несильный таллинский "Садам" (первый матч в гостях — 1:1) и продолжить борьбу в следующем круге.

Минувший тур национального белорусского чемпионата только укрепил болельщицкие надежды на успех бобруйчан. Забив в ворота могилевского "Днепра" свой очередной гол — 50-й за время выступления в национальных чемпионатах, лидер "Белшины" Андрей Хлебосолов еще на шаг приблизил свой клуб к заветному чемпионскому званию. Одержав 15-ю победу в этом чемпионате (итоговый счет 3:1), бобруйчане теперь на семь очков опережают ближайшего своего преследователя — минское "Динамо-93".

В свою очередь минчане довольно натужно переиграли ФК "Молодечно". И пускай читателя не смущает противоречие, в каком находится такой посыл с более чем уверенным счетом, зафиксированным на табло, — 4:1. Дело в том, что на перерыв команды уходили при счете в пользу гостей и весьма туманных для невыразительных хозяев перспективах. Возможно, на их действиях сказывалось массовое командное отравление, о котором потом говорил их главный тренер Румбутис. Но, поев в перерыве таблеток и справив нужду, игроки во втором тайме, что называется, оклемались и перевели игру в свой сценарий.

На третью строчку в таблице наконец взобралось минское "Динамо", всухую обыгравшее создающих новую команду юных брестчан — 3:0. Этот матч ознаменовался сотым выступлением голкипера минчан Александра Евневича, который ни в одном из этих своих матчей, на удивление, не был заменен. Своеобразный подарок юбиляру преподнес гродненский судья Франц Летяго, во многом благодаря которому минские ворота остались в неприкосновенности — рефери "не заметил" двух очевидных пенальти.

Тяжелую победу праздновал в туре чемпион. Форварды мозырского МПКЦ лишь однажды смогли поразить ворота укрепившегося игроками и тренерами (команду возглавил многоопытный Иван Щекин) аутсайдера — замыкающего турнирную таблицу солигорского "Шахтера".

Еще двух фаворитов в туре преследовали неудачи — витебский "Локомотив-96" неожиданно уступил дома "Нафтан-Девону" (0:2), а симпатичная игрой юная "Атака" (Минск) не устояла под напором слонимского "Коммунальника" (1:2).

И два слова о российском чемпионате, в очередном 24-м туре которого здорово проявились белорусские легионеры. Во многом благодаря усилиям капитана сборной Беларуси Сергея Герасимца питерский "Зенит" сумел нанести поражение успешно выступающему московскому "Торпедо" — 3:2. Один гол Сергей забил сам, а в двух других голевых случаях удачно партнерам ассистировал.

Забил "свой" гол и выступающий за сочинскую "Жемчужину" Константин Коваленко, что, правда, не уберегло его клуб от поражения в Калининграде (1:2). А вот гол экс-брестчанина и минчанина Андрея Островского в ворота нижегородского "Локомотива" оказался единственным в матче и вывел московское "Динамо" в единоличные лидеры чемпионата России.

**Александр ПАЛЛАДИЙ.**

Народная Воля

28 ЖНІЎНЯ 1997 г.

*Владимир ЮДИН*

# “Совковые” грезы

## 3. Без руля и ветрил

**(Продолжение. Начало в №№147, 148.)**

На изломе восьмидесятых система затрещала по швам. Гласность повергла нас в ужас: так жить нельзя! Как же выбраться из болота, в которое затащил страну авангард общества? И покатили учиться уму-разуму за рубеж депутаты и чиновники, которые вели нас в светлое будущее. “Гнилые капиталисты” вызвались помочь в построении правового демократического государства и рыночной экономики. Подсказали непременно приватизировать “общественное”, а землю передать в частную собственность.

Однако нашим отцам-кормильцам по нраву пришлась лишь “прихватизация”. И они, отхватив добрый ломоть, истошно завопили: “Демократы грабят Беларусь! Не допустим капитализации страны!”

Кому страшен капитализм — профессионалам и трудолюбивым или чиновникам и прихлебателям социализма? Последние быстро сообразили: в новом государстве им делать будет нечего. И повели яростную борьбу за свое выживание, “разоблачая” демократов и предпринимателей-"грабителей". Ядовитые семена падали на благодатную почву, обильно удобренную “идеологическим навозом” — ненавистью к врагам. Почему “совки” поверили “разоблачителям”?

Три поколения людей промыкались в смирительных рубахах под строгим присмотром стражей государства. В сознании человека глубоко засел образ начальника, от которого полностью зависит его благополучие. Требуется только хорошо попросить, а еще лучше — дать на лапу. Так начальники невидимыми цепями приковали к себе людей. Стоит пообещать “в случае доверия избирателей” — и мы готовы на руках их носить! Демократы же вызывают к себе неприятие и настороженность значительной части населения. И во многом повинны они сами.

Некоторые демократы первой волны провозгласили, что права нации выше прав человека, т.е. русскоязычных причислили к людям второго сорта. Мало того, свалили на белорусов груду врагов — имперскую Россию, отечественную номенклатуру и русских, оккупировавших Батьковщину. Экстремистские выходки и смелые заявления породили сумятицу в массах. Этим отлично воспользовались чиновники и коммунисты, сформировав устрашающий образ демократа.

Невразумительны и фортели, выбрасываемые новоиспеченными политиками.

Горькой памятью осталась встреча в Свободном профсоюзе Беларуси с претендентами на президентский пост Шушкевичем, Карпенко и представителем Позняка. Предвыборные программы троицы мало чем отличались.

— Почему бы вам не договориться и не выставить одного кандидата для победы над коммунистами Кебичем и Лукашенко? — обратился я к ним.

— Победителя мы поддержим во втором туре, — последовал ответ.

Кто имел шансы преодолеть первый рубеж?.. В сознании рабочих, крестьян и пенсионеров Шушкевич развалил Союз, Позняк — националист, чуть ли не фашист. По-моему, хорошая возможность была у мэра Молодечно Карпенко, которого власть имущие тогда еще не успели облить грязью и выставить врагом. Однако несколько депутатов Верховного Совета из числа 70, подписавшихся в его поддержку, в последний момент “одумались” и отозвали подписи. Это был хороший подарок Кебичу и Лукашенко. Уверен: случись завтра президентские выборы — и два-три демократа непременно ринутся в борьбу. И тем самым помогут Лукашенко остаться у власти.

Стала уже нормой и сеча между собой кандидатов от правых и центристской партий на выборах в парламент. И ломают головы люди здравомыслящие, что бы это значило — недомыслие, амбициозность или что-то пострашнее? И ползут слухи о проходимцах и провокаторах, затесавшихся в новое движение и с умыслом дискредитирующих его.

Не умеют демократы и разговаривать с простыми людьми, не под силу им пока распропагандировать воспитанников социалистического инкубатора...

Решил помочь кандидату демократической ориентации в канун выборов в парламент — и пошли по дворам домов вести агитацию. Соискатель кресла законодателя — человек образованный, интеллигентный — повел с рядовыми тружениками и пенсионерами беседу о ваучерах, процентах от прибыли... Слушатели пожимали плечами, недоуменно переглядывались...

— Кандидат считает необходимым принять закон о снижении налогов вдвое, — наобум вставил я, спасая положение. И это сработало.

Другая группа пенсионеров встретила нас выкриками “Предатели! Продали капиталистам Беларусь!”. А выпустив пар, пенсионеры стали внимательно слушать, задавать вопросы, и в конце встречи мы получили приглашение на чаепитие!

Честно говоря, мне, журналисту, при чтении некоторых заумных статей рыночников и политологов часом приходится пользоваться словарем. И думаю: господа, да, умные вы и грамотные — но пожалейте рядового читателя. Демонстрируйте эрудицию в своем кругу. А людям разжуйте, что такое правовое демократическое государство и рыночная экономика. Объясните доходчиво: почему поляки, уровень жизни которых был одинаков с нашим в восьмидесятые, уже превзошли его, а мы положили зубы на полку?

Здесь есть о чем поговорить. Ведь люди, пиявками присосавшиеся к “телу социализма”, на всех перекрестках вопят об особом пути развития Беларуси. Доказывают, что дорогу в светлое будущее выбрали отцы и деды, отдав за нее жизни. И люди верят лгунам и негодяям! Как же избавиться от детской доверчивости и не увидеть, как чиновники снова напяливают на нас смирительную рубаху? Превращают республику в теплицу под целлофановой пленкой — задыхаемся в духоте без освежающего ветерка. Глотком свежего воздуха становится чистое, правдивое слово.

Вспоминается едкое выражение: “Человек, окончивший техникум, убежден, что знает все. А окончивший институт знает, что он ничего не знает”. Категоричность и “всезнайство” — характерные черты “совка”. Не терпит “сильно грамотных” и потому молится на Григорьевича, в котором видит своего человека. Но сегодня он вынужден размышлять, почему жизнь становится ни в дугу. Мучительно ищет ответа, и чаще всего ему отвечают начальники, их подручные и журналисты типа Зимовского. Демократы же не имеют даже газеты! Появляются перед людьми на митингах в роли свадебных генералов, будто для “галочки”.

Любопытное письмо опубликовала “Народная воля” в начале года. Его автор Ю.Чишан с Могилевщины вопрошает, где найти штаб-квартиры партий демократической направленности, дает практические советы по их росту. “Я знаю немало людей, которые могли бы как-то участвовать в процессе отстаивания демократии и противодействия жесткому режиму, в том числе и автор этого письма”, — пишет он. Добавлю: и я, и мои знакомые “могли бы как-то участвовать в процессе”, но... И не страх перед властью вынуждает интеллигенцию обходить за версту “борцов за народное дело”.

Седьмой годик стукнул белорусской демократии. Однако никак она не может сбросить с себя детские ползунки, хоть и тщится выглядеть солидной дамой. Смею сказать, с такими “демократическими дамами” не скоро нам посчастливится жить в правовом государстве. Так и будем выживать на радость власть предержащих.

Народ на распутье, словно сказочный богатырь перед камнем с надписью: “Направо пойдешь... Налево пойдешь... Прямо...”. Дорогу указывает Лукашенко, выставляя демократов этаким Соловьем-разбойником, готовым перевернуть в республике все вверх дном. И делает это пока небезуспешно.

Казалось бы, лишившись парламентской трибуны, демократам следует пойти в народ с программой возрождения Беларуси. Чем “взять людей”?.. Перво-наперво — дать гарантийное обязательство с приходом к власти сократить чиновничий аппарат и силовые органы — и за счет этого повысить зарплату бюджетникам и размер пенсий. Предоставить право избирать мэров района, города и области с жестким контролем их деятельности через независимые средства массовой информации. Действительно, куда это годится, что тысячи граждан не могут решить простые вопросы на месте — едут в область, в столицу? А чиновники районной вертикали не несут никакой ответственности за хождения людей по мукам!

Надобно начать перестройку социально-психологического мышления. Требуется дать людям возможность зарабатывать — а не жить, как говорят, на халяву. Человек трудолюбивый, профессионал должен получать и соответствующее материальное вознаграждение: пора отказаться от пресловутой социалистической уравниловки.

В трудовых коллективах знают, кто у них пчелка, а кто трутень — и начнется естественный процесс самоочищения...

Знакомая — типично советская “торгашка” — устроилась на работу продавцом в коммерческую фирму. Как-то понаблюдал за ней тайком и поразился: это была другая женщина! Аккуратно одетая, с улыбкой, как самых дорогих гостей, обслуживала покупателей — а не отпускала товар! Но однажды пришла в киоск, с запашком, и хозяин указал на дверь. Сейчас она в госторговле... отпускает товары. Зарплата в два раза меньше — и аккуратно обманывает покупателей.

Многие сторонники рыночного социализма приобретают товары у “капиталистов-грабителей”: они дешевле и качественнее. Знают, что у частников и зарплата повыше — но все равно против капитализма в Беларуси! Ненависть эта к богатым передалась по генам от родителей. Ах, если бы нам удалось по примеру Царевны-лягушки сбросить уродливую шкуру! Начать перестройку социально-психологического мышления. Кто поможет нам освободиться от немощей и болезней?..

За годы тоталитаризма земля белорусская оскудела на рождение личностей. Система вырывала цветы, дьявольски взращивая лопухи. Но у нас, слава Богу, немало светлых умов, людей с честью и совестью среди беспартийных и партийных. Сумеют ли они пожертвовать амбициями во имя спасения Беларуси? Коль сумеют — честь и хвала. Споткнутся на приватизации общенародной, станут людям пудрить мозги... Неужто так и уйдут в мир иной ветераны, разуверившись в лучшем дне?

**(Продолжение следует.)**

**Стоп-кадр**



*На берегу Западной Двины в Витебске идет строительство Благовещенской церкви.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**



*Второй укос.*

**Фото Евгения КОКТЫША.**

**Чулі?**

## У Талочыне Аляксандра Лукашэнку “павіншавалі” з днём нараджэння загадзя

Як вядома, Аляксандр Лукашэнка адзначае свой дзень нараджэння 30 жніўня. Але ў Талочыне “віншавальныя” надпісы з’явіліся загадзя. Пры гэтым на сценах розных будынкаў і на платах. Як ні прыкра, але і пажаданні не самыя лепшыя, скажам, вось такое: “Лукашэнку — у адстаўку”.

Вядома, лепей было б прытрымлівацца цывілізаваных форм віншавання прэзідэнта. Але нават яго верныя спецслужбы нічога не могуць зрабіць з “начнымі вулічнымі пісакамі”. Ці не сам Аляксандр Рыгоравіч вінаваты ў гэтым?

**Павел КРУПІЦКІ.**

**Ведаеце...**

## Працэнты па ўкладах зменшыліся

Базавая стаўка рэфінансавання ў апошняй дэкадзе жніўня зменшылася з 42 працэнтаў гадавых да 38. Такое рашэнне прыняў савет дырэктараў Нацыянальнага банка краіны. Як растлумачылі тут карэспандэнту БелТА, звярнуцца да такой меры дапамагло значнае зніжэнне тэмпаў інфляцыі і дэвальвацыі рубля.

Адначасова знізілася абавязковая мінімальная плата па новапрымаемых рублёвых тэрміновых дэпазітах грамадзян. Да шасці месяцаў яна складае 38, а звыш паўгода — 45 працэнтаў гадавых.

**БелТА.**

## У Лазара Богшы праз восем стагоддзяў з’явіўся таленавіты сааўтар

Копія крыжа Ефрасінні Полацкай, зробленая брэсцкім мастаком Мікалаем Кузьмічом, перададзена Беларускай Праваслаўнай Царкве. Урачыстая цырымонія перадачы адбылася 24 жніўня ў Свята-Сімяонаўскім кафедральным саборы Брэста. Пяць гадоў спатрэбілася Мікалаю Кузьмічу, каб узнавіць вядомы крыж, выраблены ў XII стагоддзі майстрам з Полацка Лазарам Богшам. Паводле слоў мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, карпатлівая праца брэсцкага мастака была сапраўдным подзвігам.

Мікалаю Кузьмічу давялося па крупінках, метадам проб і памылак нанава спасцігаць страчаную на Русі яшчэ ў чатырнаццатым стагоддзі вельмі складаную тэхніку перагародчатай эмалі, што з’яўляецца беспрэцэдэнтным выпадкам нават у сусветнай практыцы.

Аснову крыжа складае кіпарысавае дрэва, прывезенае з Іерусаліма і асвячонае на Гробе Гасподнім. Яго пакрываюць пазалочаныя і залатыя пласціны, упрыгожаныя выдатнымі эмалямі, каштоўнымі камянямі, горным хрусталём. Каля паўтысячы жэмчугаў абрамляюць верхнюю частку. З абодвух бакоў крыжа ўзноўлены дваццаць эмалевых мініяцюр з выявамі святых, архангелаў і апосталаў. У пяці падпісаных гнёздах знаходзяцца кроплі крыві Хрыстовай, часцінка дрэва жыватворчага Крыжа Гасподняга, кавалачак каменя ад Гроба Багародзіцы і часцінкі мошчаў святых, закладзеных у крыж па асобаму царкоўнаму звычаю.

Паводле старадаўняга падання, жыватворчы крыж прападобнай Ефрасінні Полацкай, згублены ў Магілёве ў гады апошняй вайны, дапамагаў хворым і ўсім, хто прыходзіў яму пакланіцца. Цяпер жа богаўгоднае тварэнне брэсцкага майстра Мікалая Кузьміча, якое, паводле прызнання многіх вядучых вучоных, з’яўляецца не проста копіяй, а перш за ўсё цудоўнай аўтарскай работай, перададзена царкве і будзе служыць усім вернікам.

**Іван КУКСА, БелТА.**

**Мазаіка жыцця**

## Спыніся, злачынец!

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у студзені — ліпені 1997 года ў сферы эканомікі крымінальныя справы былі ўзбуджаны па 11,5 тысячы злачынствах, што складае каля 80 працэнтаў ад выяўленай агульнай іх колькасці. Пры гэтым устаноўлены 7,5 тысячы асоб, якія ўчынілі злачынствы той катэгорыі, што падлягаюць адданню пад суд.

Што датычыць злачынстваў у асабліва буйных памерах, то яны таксама вылічваюцца чатырохзначнай лічбай — іх было ўчынена за названы перыяд 1107. Праўда, гэта на сем працэнтаў менш, чым у студзені — ліпені 1996 года.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Мінск.

## Бялыніцкі-Біруля сабраў мастакоў у Бялынічах

Бялыніцкі край, услаўлены вялікім жывапісцам В.К.Бялыніцкім-Бірулем, на цэлы тыдзень стаў месцам творчай работы ўдзельнікаў другога Міжнароднага пленэра, які носіць яго імя. Сюды з’ехаліся мастакі з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Швейцарыі і Эстоніі. Тут, у маёнтку Крынкі, нарадзіўся і правёў сваё дзяцінства Вітольд Каятанавіч. На жаль, сама сядзіба не захавалася, але засталася тая зямля, тыя маляўнічыя мясціны на беразе ціхай рэчкі Друць, якія далі сілу яго таленту і ўсё жыццё натхнялі на творчыя пошукі.

Як вядома, мастак завяшчаў перадаць частку асабістых работ Бялынічам. Удзячныя землякі стварылі музей. Пазней свае творы музею перадалі і многія іншыя беларускія мастакі. І цяпер яго экспазіцыя і фонды налічваюць каля 200 жывапісных палотнаў, у тым ліку 27 работ самога Бялыніцкага-Бірулі.

А сёлета ў гонар 125-годдзя з дня яго нараджэння музей справіў наваселле. Адкрыта карцінная галерэя. А ў мясцовай дзіцячай школе мастацтваў створана мастацкае аддзяленне. Тут вучацца маляваць звыш за сто дзяцей раёна. А сама школа носіць імя свайго славутага земляка.

Удзельнікі пленэра наведалі 26 жніўня раённы мастацкі музей В.К.Бялыніцкага-Бірулі, усклалі кветкі да яго помніка-бюста і пазнаёміліся з аколіцамі гэтага вельмі прыгожага кутка Беларусі. Для работы па індывідуальных планах ім прапанавалі пяць самых маляўнічых месцаў: сядзібу Крынкі на беразе Друці, азёры ля вёсак Заазер’е, Лебядзянка і іншыя цудоўныя куткі гэтага краю.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

Бялынічы.

**Ведаеце...**

## Кожнае пятае прадпрыемства — стратнае

Па стану на 1 ліпеня гэтага года ў краіне было 2203 стратныя прадпрыемствы, або 20,9% ад іх агульнай колькасці. Сума іх страт склала 2346,9 мільярда рублёў. Самыя вялікія страты дапускаюцца ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Больш за 63,4% іх працуюць з мінусам. Амаль палова прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва не зводзіць канцы з канцамі.

Больш за ўсё стратных прадпрыемстваў на Віцебшчыне (25,4%). У прамысловасці сярод стратных прадпрыемстваў большасць (56,2%) складаюць заводы і фабрыкі дзяржаўнай формы ўласнасці.

**Сяргей ВАСІЛЬЧУК.**

## Ці адбудзецца ўрачысты сход, прысвечаны чарговай гадавіне Аршанскай бітвы?

У Мінскі гарвыканкам паступіла заява ад пенсіянера Міністэрства абароны Аляксея Паўлавіча Кавальца, які просіць даць дазвол на правядзенне 7 верасня з 11 да 13 гадзін на плошчы Якуба Коласа ўрачыстага сходу грамадзян, прысвечанага чарговай гадавіне Аршанскай бітвы 1514 года. Падчас яго плануюцца выступленні гісторыкаў, паэтаў, дзеячаў культуры, рыцарскі турнір, колькасць удзельнікаў — да 3000 чалавек.

А.Кавалец звярнуўся ў гарвыканкам з улікам усіх патрабаванняў закона. Зараз галоўнае — каб законнае рашэнне прынялі чыноўнікі гарадской улады.

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №435
## Аб узнагароджанні мнагадзетных маці ордэнам Маці

**За нараджэнне і выхаванне пяці і больш дзяцей узнагародзіць ордэнам Маці:**

**па Брэсцкай вобласці**

Абрамчук Надзею Канстанцінаўну — работніцу Целяханскай лыжнай фабрыкі, Івацэвіцкі раён

Альшэўскую Любоў Фёдараўну — даярку калгаса “Перамога” Лунінецкага раёна

Антановіч Любоў Уладзіміраўну — хатнюю гаспадыню, в.Багданаўка Лунінецкага раёна

Апановіч Ірыну Іванаўну — работніцу навукова-вытворчага прадпрыемства “Тэхналагічнае машынабудаванне”, г.Брэст

Арцюх Людмілу Віктараўну — палявода калгаса “Рассвет” Івацэвіцкага раёна

Арцюх Людмілу Міхайлаўну — цялятніцу калгаса “Рассвет” Івацэвіцкага раёна

Арэхва Надзею Архіпаўну — палявода калгаса “Зара” Лунінецкага раёна

Аўрамук Лідзію Якаўлеўну — наборшчыка Брэсцкай абласной друкарні

Байда Таццяну Раманаўну — хатнюю гаспадыню, в.Лахва Лунінецкага раёна

Бляшук Ларысу Аляксееўну — работніцу Брэсцкага радыётэхнічнага завода

Бойка Веру Трафімаўну — медыцынскую сястру Брэсцкай абласной дзіцячай бальніцы

Веліксонаву Валянціну Анатольеўну — даярку калгаса “Расія” Быхаўскага раёна

Галячэнка Галіну Уладзіміраўну — брыгадзіра аграгандлёвага прадпрыемства “Асмолавічы” Клімавіцкага раёна

Дуброўскую Валянціну Уладзіміраўну — работніцу Клімавіцкага камбіната будаўнічых матэрыялаў

Ерашкову Святлану Віктараўну — работніцу Палкаўскага дзіцячага садка, Быхаўскі раён

Жыла Галіну Аляксееўну — работніцу адкрытага акцыянернага таварыства “Гандаль”, Асіповіцкі раён

Клімко Галіну Іванаўну — заатэхніка калгаса “1 Мая” Асіповіцкага раёна

Крук Ірыну Міхайлаўну — швачку народнай вытворча-камерцыйнай фірмы “Славянка”, г.Бабруйск

Мікаву Любоў Іванаўну — работніцу жыллёва-эксплуатацыйнага ўчастка №1, г.Бабруйск

Мінаеву Ларысу Міхайлаўну — даярку племзавода “Ціманава” Клімавіцкага раёна

Пасевіч Святлану Іванаўну — паштальёна Бабруйскага вузла электрычнай сувязі

Саладухіну Надзею Пятроўну — даярку калгаса “Радзіма” Слаўгарадскага раёна

Царапнёву Надзею Фёдараўну — работніцу адкрытага акцыянернага таварыства “Хоцімскі масла唐робчы завод”

Чорствую Зінаіду Уладзіміраўну — калгасніцу калгаса “Рэвалюцыя” Быхаўскага раёна

Чухараву Марыю Вітальеўну — даярку калгаса “Кастрычнік” Слаўгарадскага раёна

Шкуратаву Ларысу Іванаўну — работніцу Журавіцкага дзіцячага дома-інтэрната для разумова адсталых дзяцей

Шлыкаву Марыю Фёдараўну — жывёлавода калектыўна-долевай гаспадаркі “Ліпень” Асіповіцкага раёна.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.Лукашэнка.**

21 жніўня 1997 г.

г.Мінск.

**Кур’ер**

## Разыгрываюцца іміграцыйныя візы ЗША на 1999 год

Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі аб’явіла аб пачатку розыгрышу чарговай латарэі іміграцыйных віз ЗША на 1999 год. Усю інфармацыю, якая датычыць умоў розыгрышу, можна атрымаць у супрацоўнікаў аховы пасольства. Грамадзяне рэспублікі, якія пражываюць за межамі сталіцы, такую інфармацыю могуць атрымаць па пошце, накіраваўшы адпаведны запыт у амерыканскае пасольства на адрас: Мінск, вуліца Старавіленская, 46, Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь.

**БелТА.**

Мінск.

**У нашых суседзяў**

## Аўтамабіль прэзідэнта Літвы наехаў на “хуткую дапамогу”

У Вільнюсе 25 жніўня на адным з ажыўленых скрыжаванняў аўтамабіль прэзідэнта Літвы Альгірдаса Бразаўскаса збіў машыну “хуткай дапамогі”, якая з уключанымі фарамі і гукавым сігналам везла ў бальніцу цяжка хворае дзіця. Сутыкненне было настолькі моцным, што “хуткая дапамога” перакулілася.

У выніку аварыі пацярпелі ўрач, маці і дзіця. Усе яны ў тэрміновым парадку шпіталізаваны.

Прэзідэнта Альгірдаса Бразаўскаса ў аўтамабілі не было. Яго вадзіцель і целаахоўнікі не пацярпелі.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**

Вільнюс.

**Крокі прыватызацыі**

## Колькі выкуплена кватэр?

За сем месяцаў гэтага года яшчэ больш за 42 тысячы кватэр перайшло ў асабістую ўласнасць грамадзян. Усяго ж з 1989 года па ліпень сёлетняга прыватызавана 743,1 тысячы кватэр, альбо 41% ад колькасці тых, якія можна набыць ва ўласнасць. Як бачым, грамадзяне краіны не спяшаюцца з прыватызацыяй жылля.

Чым гэта можна вытлумачыць? Відаць, збядненнем. Бо за жыллё даводзіцца плаціць нямалыя грошы. Жыллёвая квота атрымліваецца невялікая, і асноўную суму даводзіцца выкладваць з уласнай кішэні. Так, кошт кватэр, прыватызаваных у студзені — ліпені гэтага года, склаў 36,9 мільярда рублёў. З іх жыллёвай квотай “пагашана” толькі 2,9 мільярда рублёў, альбо ўсяго 8%. 8,6 мільярда рублёў, або 23% кошту гэтых кватэр, дзяржава выкачала з кішэняў грамадзян. Частка жылля перададзена грамадзянам бясплатна, у першую чаргу тым, чые дамы знесены. Іх кошт склаў 4,1 мільярда рублёў, або 24,7 мільёна рублёў у сярэднім за кватэру (дом). У гэты ж час мясцовымі выканаўчымі камітэтамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі прададзена 91 кватэра (дом) на агульную суму 4,5 мільярда рублёў.

Такім чынам, на гэтай аперацыі пад назвай прыватызацыя дзяржава выкачала з кішэняў грамадзян больш як 13 мільярдаў рублёў.

Шпарчэй ідзе прыватызацыя жылля ў Мінску (26% ад агульнай колькасці прыватызаваных сёлета кватэр), у Гомельскай вобласці (22%), а вось у Гродзенскай гэты паказчык складае толькі 6%, у Магілёўскай — 10%.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Печальная история**

# Знает ли президент, как в Витебске подставили пенсионера Шельцина

На президентских выборах в Беларуси рядовой житель Витебска, пенсионер Еня Шельцин не сомневался, за кого голосовать, слишком уж ему по душе пришлись бойцовские качества, обещания быстро навести порядок в республике, что щедро раздавал депутат Верховного Совета Александр Лукашенко. Ну вот, думалось тогда, еще немного, и заживем, как все нормальные люди, с Россией объединимся, грех славянские корни рвать.

Время шло, жизнь все не улучшалась, если не наоборот, однако отношения своего к президенту, должность которого в печати почему-то стали писать с большой буквы, Еня Хонанович не изменял. Вместе с сотнями других пенсионеров искренне был уверен, что Александру Григорьевичу все кто-то мешает: то Богданкевич, то все депутаты Верховного Совета, вместе взятые, то какие-то оппозиционные политические партии, а то и россияне вместе со своим президентом, потому-то жизнь и становится все паскуднее. Сначала супруги Шельцины от покупки одежды и домашней утвари отказались, а затем и на колбасе пришлось экономить. Благо, что очень скоро вообще вареные колбасы из продажи исчезли.

И все-таки убеждение не покидало старика: вот сидит Александр Григорьевич в Минске и сутками напролет только и думает, как жизнь своего народа улучшить. Вот кабы всякие оппозиционеры да журналисты-провокаторы не мешали ему...

Долго бы так, наверное, думал еще, если бы не один случай. Потребовалось Ене Хононовичу выехать за пределы республики, родню повидать — уж не молод, всякое может случиться, обидно, если с родственниками не увидишься. А поскольку хоть в ближнем, хоть в дальнем зарубежье доморощенные “зайцы” уважением не пользуются, пенсионер, достав припасенные на “черный день” деньги, отправился покупать иноземную валюту — сосед так посоветовал.

Два дня “убил” Еня Хонанович на визиты по пунктам обмена. Что за напасть! Нигде доллары не продают. Покупать — пожалуйста, а продавать — ни-ни! Что ж это такое творится, как же за границу-то выехать?

С такими мыслями забрел в очередной магазин, где есть пункт обмена. Увидев привычную уже табличку “Обменный пункт не работает”, повернул к выходу. И — повстречался взглядом с симпатичным молодым человеком.

— Хотите купить доллары?

— Ага! — обрадовался пенсионер. — Да никто не продает.

— Могу вам “двадцатку” продать. Берете?

— Конечно, беру! Мне ж, милок, ехать, понимаешь, надо.

И только Еня Хонанович взял в руки зеленую бумажку с портретом неизвестного человека, как тут его с двух сторон подхватили другие не менее симпатичные молодые люди:

— Пройдемте с нами!

Несколько шокированного таким оборотом дела старика впихнули в салон “Жигуленка”. А еще через несколько минут машина остановилась у здания городской налоговой инспекции.

В одном из кабинетов отдела налоговых расследований Еня Хонанович узнал вдруг поразительные вещи. Оказалось, что он, гражданин Шельцин, стал нарушителем Декрета № 1 президента Беларуси, а потому за скупку 20 долларов США он должен быть привлечен к административной ответственности в виде штрафа в размере 100 минимальных заработных плат. Разумеется, с конфискацией находившихся при нем всех денежных средств.

...Выйдя на улицу, Еня Хонанович долго не мог сообразить, что же с ним произошло. Первая мысль была — это какая-то чудовищная ошибка, не может быть, чтобы Александр Григорьевич такой Декрет написал, это, наверное, опять Шушкевич с Богданкевичем все организовали.

Всю ночь не спал, ворочался от тяжелых дум, а наутро снова отправился в налоговую инспекцию. Проходя по кабинетам, в одном из них увидел... того самого молодого симпатичного человека, что продавал ему вчера доллары в магазине “Бытовые приборы” на улице Петруся Бровки. Этот молодой человек, по-хозяйски расположившись за столом, работал с какими-то бумагами.

Удивлению Ени Хонановича не было пределов. А потому, зайдя к милиционерам, старик прежде всего поинтересовался, какое наказание получил продавец валюты.

— Увы, — услышал в ответ, — не удалось его привлечь к ответственности. Пока мы с вами разбирались, сбежал. Прямо из-под наблюдения младшего сержанта милиции. За это мы милиционера, конечно же, привлечем к самой строгой ответственности.

— Так вот же он, в кабинете сидит, — не удержался пенсионер.

— Ошибаетесь, папаша. Этот человек, на которого вы показываете, не является работником отдела налоговых расследований и вообще милиционером, плюс ко всему во время совершения правонарушения он находился совсем в другом месте.

После этого визита Еня Хонанович прозрел, все вдруг встало на свои места. Нет, он не стал обвинять в своих бедах президента и его Декрет, наоборот, он понял, что президент у него хороший и декрет его просто замечательный. Но, как и всегда, все испоганили “вредители”, перевернув Декрет с ног на голову, извратив его до неузнаваемости. И стоит только Александру Григорьевичу узнать, как с его гражданами обращаются чиновники...

Но пока обращаться прямо в Минск Еня Хонанович не решился, стал пробовать правду-матку в Витебске искать. В кабинетах больших и малых начальников пенсионера внимательно выслушивали, в знак согласия кивали головами и... разводили руками. Во время этих походов Еня Хонанович больше всего был удивлен отношением к президенту державы его же государственных служащих. Фразу типа “сами такого выбирали — вот вам и результат” шокированный пенсионер слышал не один раз.

В одном из кабинетов Ене Хонановичу посоветовали обратиться в суд. Пенсионер так и поступил. Заседание Первомайского районного суда помогло Ене Хонановичу сделать еще один вывод: и тут сидят “вредители”. А как еще можно расценить решение судьи Н.Гурьян оставить жалобу без удовлетворения “ввиду необоснованности требований”?

Таким же оказался и областной суд, в котором Е.Шельцин потребовал отменить решение Первомайского. “...Оснований для отмены решения не нахожу”. Но больше всего пенсионера удивили следующие строки ответа председателя суда Т.Воронович: “Ваше утверждение о том, что данное правонарушение спровоцировали сами работники налоговой инспекции, не может служить основанием для освобождения вас от ответственности”.

— Да как же не может? — кипятился пенсионер. — Если бы не эта провокация, я бы просто не был правонарушителем!

Однако слушать строптивого пенсионера уже нигде не хотели. Отказал ему в приеме (в приемные часы!) прокурор области. Демонстративно отказалась принять его руководитель налогового комитета. Сам начальник отдела налоговых расследований Г.Иванов ушел вдруг на повышение в областные структуры — так просто не доберешься...

Вот тогда Еня Хонанович дозрел. Решил, что пора уже и Александру Григорьевичу знать, какие вещи его чиновники творят. Пошли письма в столицу — в Администрацию президента, в Конституционный суд, в другие инстанции, имена руководителей которых и вслух-то страшно произносить. Что-то осело в “закромах государства”, что-то вернулось в ту же самую налоговую инспекцию — “разберитесь”.

Теперь Еня Хонанович ищет в Витебске журналиста, который бы мог в республиканской газете рассказать о творящихся с ним беззакониях. Увидит, дескать, Александр Григорьевич, — тогда еще посмотрим, на чьей улице праздник будет.

Налоговая же служба тем временем почему-то не спешит взыскивать с гражданина Е.Х.Шельцина штраф в сумме 13 миллионов рублей. Еня Хонанович в юридической консультации поинтересовался, имеют ли право взыскать такую сумму с его пенсии — других доходов нет и не предвидится. “Могут, — ответили в консультации, — но не более двадцати процентов от размера пенсии”. Подсчитав, сколько лет для этого потребуется, пенсионер слегка повеселел — едва ли столько проживу...

Однако на днях принесли ему бумагу из налоговой инспекции. Не заплатите срочно, — предупреждали Еню Хонановича, — мебель в квартире опишем.

Как же пенсионеру до президента добраться?!

**Евгений ТОМОВ.**

